СЯРГЕЙ ФАМІН

# ДЫМНАЕ ЖЫТА



ВЕРШЫ
ПАЭМЫ
ПЕРАКЛАДЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 84Бел7
Ф 20

Укладанне, прадмова і каментарыі
Г. Ф. ЮРЧАНКІ

В литературу Сергей Фомин (1906—1941) вошел как типичный молодняковец. Поэт с восточных окраин Белоруссии привнес в белорусскую поэзию неповторимые жизненные реалии, оригинальную лексику. Он прославлял Октябрь, новую жизнь белорусской деревни, но при этом счастливо обходился как без современных ему «буропенных», так и модных минорных настроений. В конце 20-х годов подготовил и сдал в издательство книгу «Дымное жито», которая не вышла в свет — поэт стал жертвой сталинизма.

Ф $\frac{4702120202-058}{М\ 302(03)-91}$ 137—91

ISBN 5-340-00776-6

# З БЕЛАРУССЮ ЗАРУЧОНЫ

«Ад Сожа ціхага, ад берагоў Вяхры», з зямлі старажытнай Мсціслаўшчыны прыйшоў у беларускую літаратуру здольны юнак Сяргей Фамін. Бацьку яго, селяніну па паходжанні, пашанцавала «выбіцца ў людзі» — атрымаць педагагічную адукацыю. Маці — непісьменная сялянка — размаўляла толькі па-беларуску. Так што беларускую мову ён засвоіў літаральна з малаком маці.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі частка былога Мсціслаўскага павета адышла да Расійскай Федэрацыі. У Манастыршчынскім раёне на Смаленшчыне аказалася і родная вёска будучага паэта Пепелеўка, у якой ён нарадзіўся ў 1906 годзе. Але юнак цвёрда лічыць сябе беларусам, вучыцца ў Мсціслаўскай сямігодцы, заканчвае Магілёўскі педтэхнікум, Беларускі дзяржаўны універсітэт.

Рана абудзілася ў Сяргея цяга да творчасці. Ён змяшчае допісы ў газетах. У 1925 годзе ў друку з'яўляюцца яго вершы. А ў наступным годзе крытык М. Аляхновіч ужо аналізуе творчасць маладога паэта, паведамляе, што ім напісана значная колькасць вершаў і паэма «Перазвоны восені» і што ў друку з'явілася толькі невялікая частка яго твораў.

Пачынаў Сяргей Фамін як тыповы маладняковец. Гімн Кастрычніку, барацьба новага са старым, радасць маладосці — гэта асноўныя тэмы паэта. Сустрэнем у

яго і маладнякоўскую атрыбутыку, асабліва ў паэме «Балота» — «густая аксамітная сінь», «сонечныя дні», «мітульга мяцеліц», «касагораў белыя грудзі», «каралі рос», «серабро вясёлкавых крыніц», «новай эры веянь», «румянкавыя гоні», «пунсовае ранне», «ліловa-сонечная вясна». Разам з тым крытыкі, а сярод іх вопытны і спрактыкаваны Максім Гарэцкі, адзначаюць рад істотных якасцей творчасці маладога паэта: тонкае адчуванне верша, адшліфаванасць паэтычных радкоў, іх плаўнасць, мілагучнасць, дасканалае валоданне словам. Паэт шчасліва пазбегнуў фармалістычнага штукарства, бурапены, бяскрылай летуценнасці. Абышлі яго ўвагай бязвер'е і песімізм. Істотным было тое, што сам паэт знаходзіўся ў асяроддзі, дзе жылі яго героі, сам быў удзельнікам гэтага жыцця. У яго вершах ярка выражана жывое пачуццё, сапраўдны лірызм, многія творы вылучаюцца канкрэтнасцю вобразаў і перакананасцю дэталей, разуменнем складанасці грамадскіх падзей. Лірычны герой верша «Растапталіся цяжкія боты» разумее неабходнасць прыходу новага, хоць для яго гэта нялёгка. У горадзе ён адчувае сябе яшчэ нібы ў «зацішы жыта». Але «загудзеў хрыпатліва гудок», і адразу «рабочым стальным камсамоллем загудзела» яго галава. Паэт разумее неабходнасць індустрыялізацыі, але шкадуе вёску, хоць і не ідэалізуе яе: там балоты, трысцё, званец, хаты-гніль і толькі «рэдкіх ніў пазалота».

С. Фамін быў сведкам падзей сусветна-гістарычнага значэння, гарачым сэрцам успрыняў справу рэвалюцыі і цалкам аддаў сябе яе ідэалам:

Мяне жыццё агнём пацалавала,
Каб у жыцці я заўжды мог гарэць!

Паэт імкнецца адлюстраваць новыя бакі рэчаіснасці, практыку сацыялістычнага будаўніцтва, выявіць пачуцці свайго сучасніка. Шырокі ідэйны кругагляд

яго лірычных герояў, якім уласціва прага творчай дзейнасці. Ён стварае выразныя вобразы працаўнікоў-ударнікаў («За новыя дні», «Менск», «Наш крок» і інш.), захапляецца імі і сам гатовы ўдзельнічаць у стваральнай працы: «Калі трэба — я сяду сам за сталёвы калгасны трактар».

Праз усю паэзію С. Фаміна праходзіць шчырая любоў да сваёй бацькаўшчыны, роднага краю, роднай Беларусі.

Значнае месца ў творчасці С. Фаміна займае тэма сяброўства, шчырай камсамольскай дружбы, кахання. Радкі яго вершаў напоўнены радасцю звычайнага, зямнога жыцця, яго рэалій. Паэт шчаслівы, калі

Дзяўчына зноў спявае мне пра жыта,
Пра хараство жыцця і срэбра зор.

Любімая яго пара — вясна, росквіт усяго жывога. Самыя шчырыя і бадзёрыя радкі выліваюцца з-пад пяра паэта пра гэту пару года: «Б'е вясна вясёлай працай камсамола»; вясна «травою сыпала ў палёх, ў мільёны скрыпак дзесьці грала»; гэта вясной «пырснуў травою ў палях касагор». Але вясна ва ўяўленні паэта — не толькі пара года. Гэта нешта шырэйшае, вясна чалавецтва, якую ён гатовы так звонка апяяць. З глыбіні ўзрушанага юнацкага сэрца вырываюцца словы, звернутыя да сястры (верш «Ноч»):

Ой, глядзі, месяц так залаціцца.
Хіба ж можна цяпера заснуць?
Заспяваем жа дружна, сястрыца,
Камсамольскую нашу вясну!

У многіх вершах паэт апявае шчырасць кахання. Да каханай яго лірычны герой адносіцца ўзвышана-цнатліва, з выключнай чысцінёй пачуццяў, пяшчотна і трапятліва. Разам з тым асабістае і грамадскае непа-

дзельны. Як правіла, гераіня такіх вершаў — камсамолка.

Вельмі востра скіраваны ў сучаснасць вершы «Чырвоны ордэн» і «Сіняй ноччу, ў месячную замець». Першы расказвае пра барацьбу ў гады грамадзянскай вайны. За вёскай ідзе бой. Маці з трывогай чакае сына. Нарэшце не вытрымлівае, ідзе яго шукаць. Знаходзіць мёртвага з чырвоным ордэнам на грудзях. Навокал пануе атмасфера радасці ад атрыманай перамогі. Але «нешта радасць засціць». Гэта несуцешнае гора маці. Ці не далучаецца безыменны фамінскі юнак да тых дваццаці мільёнаў, якіх мы недалічыліся пасля апошняй вайны і якіх працягваем аплакваць і сёння. У вершы выразна гучыць асуджэнне жорсткасцей вайны.

Шэсцьдзесят год назад напісан і другі верш — «Сіняй ноччу, ў месячную замець...». Але які ён надзённы! Тады яшчэ не было размоў пра экалагічныя праблемы. А паэт, нібы сёння, абураецца бяссэнсным знішчэннем лясоў. Ён знаходзіць дакладныя словы, каб выказаць пратэст супраць неразумных адносін да прыроды: «пад дубам плакала жалеза», «маўчалі зрэзаныя пні», дуб паваліўся «урачыста, ўзбурана і горда», высечаны бор «быў пахож на могільнік далёкі».

С. Фамін захапляўся творчасцю С. Ясеніна. Як успамінае Алесь Звонак, Сяргей так чытаў любімага паэта, што слухачы плакалі. Натуральна, вучоба ў вялікага рускага паэта ў вершах С. Фаміна досыць адчувальная. Асабліва гэта відаць у вершах «Прыяцель», «Па першай пароша» і ў інш. Бясспрэчна, творчасцю С. Ясеніна навеяны фамінскія радкі:

Пацалункамі вытку «люблю»
Па канве тваіх шчок загарэлых.

Або:

Я у сэрца люблю насыпаць
Тваіх слоў залацістае проса.

Разам з тым неабходна адзначыць, што гэтая вучоба была плённай, творчай.

Паэт хутка сталеў. Пашыралася тэматыка. Уважліва ўглядаўся С. Фамін у мінулае роднага краю, апяваў гераічную барацьбу бацькоў і старэйшых братоў за перамогу народа, за ўстанаўленне ўлады рабочых і сялян. Істотная розніца заўважаецца паміж вершамі 1926 і 1928 гадоў. Усё менш і менш заставалася знешніх адзнак маладнякоўства. Актыўны ўдзел прымаў ён у літаратурным жыцці. Амаль у кожным нумары «Маладняка» за 1928—1929 гады паведамлялася пра яго выступленні перад рабочымі, навучэнцамі.

З 1930 года паэт жыве ў Горках, выкладае беларускую і рускую мову і літаратуру на рабфаку і ў сельскагаспадарчым інстытуце. Кіруе літаратурным гуртком, настойліва працуе над паэтычнымі радкамі. Шматтыражка «За пралетарскія кадры» паведамляла ў 1934 годзе, што ў паэта падрыхтавана нямала новых вершаў. Дарэчы, газета досыць часта друкавала вершы студэнтаў. Вялася размова пра выданне альманаха «Літаратурныя Горкі».

У Горках С. Фамін праходзіў ваенную падрыхтоўку і, нібы прадчуваючы свой далейшы лёс, вучыўся ў аэрафотатапаграфічным тэхнікуме. Здаецца, нішто не прадказвала няшчасця.

Але нечакана яго жыццёвы шлях быў жорстка зламаны. 4 студзеня 1935 года паэта арыштоўваюць, абвінавацiўшы ў стварэнні контррэвалюцыйнай групы. Праз чатыры месяцы спецыяльная калегія Вярхоўнага суда БССР прыгаварыла яго да выключнай меры пакарання. Праўда, на гэты раз Вярхоўны суд СССР замяніў прыгавор на 10 год пазбаўлення волі. Без сродкаў існавання засталіся жонка і трое дзяцей. Нявесткy і ўнукаў прытуліў бацька паэта. Але і ў Пепелеўцы нялёгка даводзілася сям'і асуджанага. Заўважаліся косыя позіркі, чуліся зневажальныя словы.

Пакаранне паэт адбываў у Комі АССР. Працаваў у тапаграфічнай партыі. Зрэдку родныя атрымлівалі ад яго паштоўкі, пісьмы. Ён усяляк стараўся падбадзёрыць маці, жонку, дзяцей. У пісьмах расказваў пра побыт, працу, нібыта ў яго ўсё добра. Дзе толькі можна, чытае. Вывучае італьянскую мову, завучвае на памяць вершы Дантэ. Выкройвае час на ўласныя вершы: «Немножко творю...» У пісьмах выражае ўпэўненасць у хуткую сустрэчу.

Але адчуваецца, што сапраўднай надзеі на зварот у яго не было. Вось адрасаваныя жонцы радкі з паштоўкі:

Я грежу именем твоим, твоей тоской,
Как музыкой, как лугом, поцелуем.
Мария! песня встреч... и вот с такой
Мечтой, наверное, умру я.

Так, у паэта былі ўсе падставы не спадзявацца на магчымасць вяртання з сталінска-берыеўскіх лагераў смерці. Сапраўды, неўзабаве аднаго пакарання для паэта паказалася мала. 29 верасня — 2 кастрычніка 1941 года над ім адбыўся другі суд. С. Фаміна абвінавацілі ў контррэвалюцыйнай прапагандзе і агітацыі, удзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі і падрыхтоўцы ўзброенага паўстання, на гэты раз у месцах зняволення, і прыгаварылі зноў да выключнай меры пакарання. 4 снежня таго ж года паэт быў расстраляны.

Так трагічна абарвалася жыццё шматгранна адоранага паэта. Талент С. Фаміна не паспеў разгарнуцца ва ўсю моц. Але яго паэзія ў маладнякоўскім вянку ззяла адметнай і прывабнай кветкай. Не страціла яна пазнавальнага і эстэтычнага значэння і ў наш час.

*Георгій Юрчанка*



Перазвонамі стазвоннымі
Празваніла восень клёнамі,
Калыхнула сосны сонныя,
Калыхнула засмучоная.
Муць туманная, глыбокая,
Думкі — сцежкі дзеразовыя.
Ў думках светлых — каравокая,
Шчасце вуснаў — пурпуровае...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ўсё мінецца, ўсё пракоціцца
Каляровымі лятункамі.
Пачынаецца ўсё — гліцамі,
Адмірае — разрахункамі.
Да кахання — сэрца ласае,
Помню, глянуў — рассмяялася...
...Дарагім за вершы зваўся я,
Ты за вочы — пададалася...
Ну, а потым — смуць прадонная:
Развіталіся у гонях мы...
...Перазвонамі стазвоннымі
Празваніла восень клёнамі...

*1925*

# НОЧ

*Сястры Раі*

Месяц, месяц... Ой, як залаціцца.
Хіба ж можна цяпера заснуць?
Дарагая мая сястрыца,
Праспявай што-нібудзь пра вясну!

Што-нібудзь... Ну, чаго спахмурнела?
Ну, чаго?.. Дарагая сястра?
Чуеш? песня задорыста-смела
З камсамольскага чутна двара.

Не сумуй! раніцой ў камсамоле
Зробіш добра надзіва даклад.
...Аб вясновым рамашкавым полі
Камсамольцаў сям'я завяла...

Ой, глядзі, месяц так залаціцца.
Хіба ж можна цяпера заснуць?
Заспяваем жа дружна, сястрыца,
Камсамольскую нашу вясну!

*1926*



Я бачыў вас даўно. І многа праляцела
З тых пор лятункаў агнявых.
Былі тады дзяўчынкаю нясмелай.
Прайшло...
Мяне забылі вы.

Вам не спазнаць мяне... Ды мне й не дзіва.
Дарэмна зірк я ваш лаўлю.
А помніце,
калі ў сувеі сліў
Сказалі ціха мне «люблю»?

Мы бачыліс даўно. Мяне вы — не спазналі.
Кранулі з смехам вы касой...
Блішчэлі сёння ў вас занізкамі каралі
Апошняй развітальнаю слязой.

*1926*



Калыхнулася месяца сінь.
На дварэ па-асенняму вецер.
Па-асенняму хочацца сніць,
Па-асенняму зоры свецяць.
Вецер шэпча каханне галлю...
— Ты заходзь, мая любая, смела!
Пацалункамі вытку «люблю»
Па канве тваіх шчок загарэлых.
У гэту ноч я не буду спаць.
Ты зайдзі, распляці свае косы!
Я у сэрца люблю насыпаць
Тваіх слоў залацістае проса.
Сёння восень гуляе садам.
Дарагая! Не бойся! Зірні!
Ты прыйдзі да мяне, мая радасць,
Запалі ў маім сэрцы агні!

*1926*



Зноў я пабачу сялянскія хаты,
Выйду ў прасторы, дзе соўкае даль.
Колькі там новага — край непачаты,
Казку спяваюць там шэрагі хваль.

...Працай у вёсцы вясна загудзела...
Пырснуў травою ў палях касагор,
І пацягнуліся ў долы нясмела
Светла-зялёныя грэбені гор.

Ну й заспяваю я там паласою,
Там, дзе жыты мяжуюць ў палёх,
Там ідзе бор аксамітнай касою,
Да рэчкі каханай маўкліва прылёг.

Вечар настане.
Схаваюцца горкі
Ў вопратку лёгкую розавых чар...
І ў цішыні усміхнецца гармонік
І забунтуе, як волат-бунтар.

Скінулі хаты мінулага плесень:
Рынулась вёска ўпярод — не стрымаць;
Ў светла-чырвонай «Мяцеліцы песень»
З шэранькай вёскай цябе не зраўняць.

Вось каб ў «Мяцеліцу песень» вясковую —
Ну, хоць цяпер бы, фабрычных гудкоў —
Вось зазвінела б там казка жыццёвая
Новых блакітных вякоў!..

*1926*

* * *

Зашумела шоўкам шолах-гліца,
Шэрым шоўкам маладога поля.
Разліліся светлыя крыніцы,
І вясна з'явілася сваволіць.
Раскажы, сястрыца, аб суглінках,—
Іх па-новаму аруць сягоння?
...Захісталася бялянкаю каліна.
Зацвілі румянкавыя гоні.
Любая! цнатлівай раніцою
Прыхадзі ты заўтра да мяне.
Мы спаткаем новае з табою
У лілова-сонечнай вясне.
Паглядзіш, як трактарам-маторам
Будзе рэзацца па-новаму зямля,
...і мае румянкавыя касагоры
Перастануць ў далях красаваць.
І заб'ецца, так тагды заб'ецца
Сэрца, апавітае журбой,
Што замест румянкавай пальецца
Новы спеў — матора перабой.
Скажаш — не люблю я новай завірухі? —
Я за гэта ўсё — аддам сябе.
І матора спеў мне люба слухаць.
Толькі...
Шкода мне румянкавую бель...

*1926*

* * *

Разлілася рэчка, зазванілі хвалі.
Радасць, песні, сонца
...агнявыя далі.
Паглядзець на жыцце сёння так хачу я,
Чую сонца мая, песні сонца чую!
Закрасуй, каліна, закрасуй у лесе,
Сонечнай саломай, белая, засмейся.
Колькі песень, сонца...
Вось чаму сягоння
Гоніць песня гоцаць
Трапака на гонях.
Пацяклі мяцелі, разарваліся клоччам.
Далі светлы, сіні — нібы твае вочы.
Паглядзі навокал, паглядзі на долы,
Б'е вясна вясёлай працай камсамола.
Пакажыся, трактар, спеў матора кінь,
Заарэм рамашкі — будуць васількі.
Смейся радасць, сонца.
І мяне сягоння
Гоніць песня гоцаць
Трапака на гонях.

*1926*

* * *

Пакаціліся ў гай адгалоскі,
спевам бор бараду ўзварушыў...
Ой! чаму зазвінелі бярозкі,
адгукнуліся песняй ў душы?..

Гэта песня даўно мне знаёма —
раскідала дзяўчына яе.
Залатая праменняў салома
у каралях дзяўчыны злуе.

А яна — так вясёла і горда;
гэта ўбачыш — вачмі толькі кінь,
а спявае, спявае задорна,
на грудзях аж калышацца «КІМ».

*1926*



Растапталіся цяжкія боты,
ліпне цеста пахучай зямлі.
Ой, балоты, мае балоты,
ў старасвецкіх садах тапалі...

А увечар ды звонкага траўня,
калі сінь выдумляе зару,—
мне здаецца зусім нядаўняя
верасовая даль — Беларусь.

Васількі...
Шэры шорах чаротаў,
хаты-гніль,
і з канца у канец
рэдкіх ніў на палях пазалота,
васількі,
ды трысцё,
ды званец.

А ў бары — маладухай каліна
рассыпае пяшчотную бель;
а у бедных палях-далінах
пасцілаюць рамашкі пасцель.

Іх я мяў... Ў іх хаваў галаву я,
сумаваў, як іх клала ралля,

і к рамашкам ў даліну другую
пасля працы хадзіў гуляць.

А цяпера...
Эх, далі, далі!
І нашто я вас гэтак любіў?
Ай не ведаў:
маторнай сталлю
можна песню травы загубіць.

Але што ж?
Ну — няхай,
ну — не будзе...
Трэба трактар —
павінен і быць!..
Касагораў белыя грудзі
аддаліся без барацьбы.

———

Я іду.
Чуць шушукае гліца...
Грукат горада...
Я у саду...
...Пачынае мне раптам трызніцца,
нібы я па рамашках іду.

І іду ў санцавейнай пагодзе
ў заціш жыта
за крокам
крок...

...Раптам
        дзесьці
                далёка ў заводзе
загудзеў хрыпатліва гудок.

На хвіліну — забылася поле,
на хвіліну — прапала трава
і рабочым стальным камсамоллем
зазвінела мая галава...

Ну... А потым —
                звінела каліна,
песняй плуга звінела мяжа...
...Праспявай, дарагая
                    дзяўчына,
як званцом зацвіла сенажаць...

*1926*



Растлумач, дарагая, загадку:
Што зрабілася гэта са мной,
Як вазьму залатую двухрадку,
Кроў п'яніць мне яна, як віно.
Зацвіту разудалым разгуллем,
Не пужай ты зданнямі, ноч,
І да чырвані рання з Ганулян
Палахлівым не скінуся сном.
Яе вочы —
гарaць вугалямі,
Як твае —
закідаюць агнём...
...Ноч звініць і пяе канаплямі,
І шапоча каханнем галлё...
Як твае — яе русыя косы,
І усмешка такая ж...
твая...
А як песню за працай калосіць,
Гэта чуў я, як з ёю стаяў.
Дык за што ж?..
Дык чаму ж, дарагая,
Я зрадніўся з табою душой,
Дык чаму ж ты, як тая другая,
У якой твае вусны знайшоў?..

*1926*



Вясна адыходзіла садам,
Мяцеллю вішнёвых пялёстак.
Не надта вясёла, не надта
Звінела за садам бярозка.

Вясна адыходзіла садам...
І была так смутна чагосьці...
І нібы падбітыя градам
Ссыпаліся кветкі...
                    Не восень...

Ссыпаліся кветкі...
                    Не восень...
Вясна...
          А ссыпаліся кветкі...
Ай, косіць жа вецер, ой, косіць
Пялёсткі ў садах і палетках.

А ўчора яшчэ я прымеціў,
Як зусім непрыкметнай рукой
Парасчосваў яблыні вецер,
Размяцеліў ў садах малаком.

Пацяшаўся, смяяўся варожа,
Адыходзіла садам вясна...

...Ай, ды як жа была прыгожа
Серабрыстых садоў сцяна...

...Рассяваліся срэбрам пялёсткі,
Замяталі пустаць за вясной.
...І у сэрцы асеннія ўсплёскі
Перавіліся смуткам ізноў...

*1926*

* * *

Восень зноў.
А вечар сягоння —
Як вясной...
Сіні месяц плыве...
Мне знянацку, нібы спрасоння,
Скаргай здалась лісцё на траве.

Да мяне не прыйшла.
Крыху сумна...
Ў гэту ноч аднаму цяжалей.
Хіба выйсці на поле за гумны,
Будзе мо весялей.

Да мяне не прыйшла.
Дзе ты, казка?
...Вецер лісце змятае ля ўгла...
Я чытаю табе дзеда Маркса,
Ты на ўлонне ка мне прылягла...

...Затуманіўся сіні вечар,
Вецер сцежкі лістотай заўяў.
Як хацелася б зараз пабегчы
Да цябе...
Дарагая мая!..

*1926*

# ДАЛЁКАЙ ВЯСНОЙ

*Прысвячаю сябру*
*Ніне Станафіевіч*

Не забуду цябе ніколі,
Хоць здалося мінулае сном.
І было у рамашкавым полі,
У рамашкавым полі вясной.

Як заўсёды:
цудоўныя зданні
Хочаш бачыць такімі ізноў...
У мінулае гляну я, гляну:
Ой, было як даўно,
даўно...

Засмучоны жалейкаю вечар
Ціхай песняй далёка трызніў,
Павявала засмучаным нечым
Ад зялёных заціхнуўшых ніў.

Толькі месяц смяяўся крыва,
Ўскінуў хмарку на плечы ў накідку.
То змаўкалі ў бары пералівы,
То нясліся —
вяліка,
вяліка!

І было у рамашкавым полі,
У рамашкавым полі вясной...
Не забыць мне цябе аніколі,
Хоць здаецца мінулае сном.

Мы спаткаліся,
                    помню я — проста.
Пачалося з звычайных слоў...
Твар вясёлы, русыя косы,
Толькі КІМа яшчэ не было.

Мы казалі... аб новым казанні...
Пачыналі заўзята спяваць,
А ў адказ нам смяяліся далі,
Вечар зоры ўгары рассяваў.

Не забуду ж цябе аніколі.
Камсамолкай была ты са мной.
І было у рамашкавым полі,
У рамашкавым полі вясной.

*1926*

* * *

. . . . . . . . . . . . .

Ой, звіні ў палёх, жалейка,
жар, гармонік, ў тры рады,—
збудавалася ячэйка,
моладзь ўся пайшла туды.

Камсамольцы, як маліна,
дружны, як усход аўса;
нават сёння тры дзяўчыны
сакратар ў «камсу» ўпісаў.

У былых палацах пана
камсамольцы ладзяць сход,
і вясковая Таццяна
узняла жаночы род:

— Так і так, дагэтуль спалі...
А цяпер — не будзем спаць!
Нас дагэтуль зацямнялі,
трэба ж нам свядомым стаць.

Ў сельсавет ідзе нявеста
запісацца з жаніхом.
Баця! тут табе не месца
з залатым тваім крыжом!

Дзе царква — там будзе школа,
дзе твой дом — там будзе клуб,
пойдуць людзі шляхам новым,
без папа там будзе люба!

Прашнуруе вёску провад,
ой вы, сінія агні,
песняй працы, песняй новай
вёска гучна зазвініць.

І палескія прасторы
не балотам зашумяць —
светластрунныя маторы
кінуць спевы ў сенажаць!

*1926*



Сёння ночка ласкава, як мама,
І сівей, чым валасы у мамы.
Чэша кудры снегавая замець,
Калыханку запявае за кустамі.
Недзе ў далях, ў снегавых сувеях
Хата залаціцца аганём.
Мабыць, ночы там — куды сівей.
Мабыць, зоры там — рахманым дзіцянём.
Ў печы дровы разгарэліcь жарка.
Ў цішыні газета шалясціць.
Бацька ціха марыць аб жняярцы,
Як вясной к шматполлю перайсці.
І глядзіць на шэрую паперу,
І позірк разбягаецца радкамі...
Мама марыць... Верыць і не верыць.
Ноч сівей, чым валасы у мамы.
Дні бягуць, бягуць дзянькі за днямі,
Па-вясноваму шушукае галлё...
Залаціцца хата аганямі,
Родная... Ў замеценых палёх.

*1927*



*Прысвячаецца М. Л.*

Да цябе я сягоння прыйду
у марозную сінюю ноч.
Дарагая мая, не бядуй,—
мы пабачымся, любая, зноў!
...Да цябе я сягоння прыйду.

Выбачай, што прыйду я пазней,
бо увечары — ў клубе даклад.
Пачакаеш мяне? Не заснеш?
Мо прыйду, калі згасне зара...
Выбачай, што прыйду я пазней!

Ну, бывай, дарагая,— прыйду!
Ў гэту ноч, дарагая,— чакай!
На шляху, дзе бярозы гудуць,
Мяне выйдзеш сягоння спаткаць?
...Ну, бывай, дарагая! Прыйду!

*1927*



Ціха дзед на печы моліцца,
Ўнучка — песню завяла...
А другая з камсамольцам
Падрыхтоўвае даклад.
Маці жорсткімі каленямі
Нахілілася у кут.
А з сцяны усмешка Леніна
На паднятую руку.
У кутку, на чорным століку —
Пажаўцелы часаслоў;
Поруч — кніжкі камсамольскія
І плакат бадзёрых слоў.
Брат з сястрою звоняць словамі,
Думкі зморшчкамі ляглі...
Ў думках іх — краіна новая
І бязмежныя палі!
Дзед злуе: — Вар'яты грэшныя!
Носе ж бог вас па зямлі!
І адказ гарыць усмешкаю:
— Мы — жывем! вы — аджылі!

*1927*

## ЛІСТ ДА ХЛАПЦОЎ

*Прысвячаецца моладзі*
*вёс. Ратуцічы*

Браткі мае! вітаю вас
З вялікім урачыстым святам.
Вітаю вас!
І вашым хатам
Мая ківае галава.

Браточкі!
Што вам напісаць
Аб гэтай радасці і працы? —
Я чую моц,
Будую сам
І песнямі магу смяяцца.

Эх, любыя!
Каб паглядзелі вы...
Каб вы прыехалі
На свята ў госці.
Вам паказаў бы
Горад заравы,
Ў пурпур сцягоў затопленую восень.

Я ведаю, цяпер — мароз
І вы да свята
З хвойніку пабудавалі браму.

...І нехта хмуры урачыста ў раме...
І сцяг далёка бачан за гарой.

Я ведаю, што хустку з дзеразы
Вы ўскінулі на новую чытальню.
...І ніякія ў свеце маразы
Не замарозяць песні прывітаннем.

А горад наш,
Сябры мае, браткі!
Прыедзьце, паглядзіце самі:
Будуецца і плешчуць малаткі,
Расце палац,
Шляхі раўнуе камень...

У вас — не так:
Па золаце травы
Збярэцеся вы з хутароў па горсці.
Прыедзьце, хлопцы,
Да мяне у госці,—
Я пакажу вам
Горад заравы
І ў дрож сцягоў затопленую восень!

*1927*

# КАСТРЫЧНІК

Зіма ідзе.
Браткі мае, зіма:
А неяк не хачу я верыць:
бо толькі
У пунсовы май
Так урачысты вуліцы і скверы.
Бо толькі
У пунсовы май
Людзей, як дрож,
Перабірае радасць.
Зіма ідзе.
Туман і дождж.
І шалуху рассыпалі прысады.
Ды гэта што,
Калі калышуць дні
На вуліцах бадзёрыя натоўпы...
О! Гэтага ніколі я не сніў,
Ад гэтых чар
Нікуды не пайшоў бы.
Ніхто цяпер не здолее спыніць
І ніякія ў свеце перашкоды...
Будуем новае
Мы з кожным годам,
І зіхацяць
Па-новаму нам дні!

*1927*

* * *

Ў душы маёвыя агні і навальніцы,
У вокны просіцца асенняя цяплынь,
І дыша дзень пралескаваю гліцай,
Юнацкай радасцю хвалюе стромка плынь.
На небасхіле — макамі заранкі,
За небасхіламі — кіпучая вясна.
Ірдзеюць радасцю малінавыя шклянкі
Усходніх воблакаў з вішнёвага віна.
Мой свецел шлях,
І проста мая мэта!
Ніякія шляхі з дарогі не звядуць!
Жыццём і мной са сцежак снег размецен,
І я з жыццём аберуч ўдаль пайду.
Я паімчу пад пенаю рамашак,
Як конь узмылены,
Якога не стрымаць.
О маладосць!
Юнацкае размашша,
О ўспенены пралескамі мой май!
На чорта мне «гітары ледзяныя»?
Я жыць хачу, як хлопец ў 20 год!
Сябры мае, таварышы!
Вясны я,
Вясны хачу!
І спеваў дарагой!

*1927*

* * *

*Мары маёй на ўспамін*

...Уперадзе — радасці мора,
Уперадзе — свецяць агні.
Ў шаўковым званцы касагораў
Ніколі я шчасця не сніў...

Спаткаўся. Каханне навалай
Ў душы зацвіло — нібы хмель...
Ты цэлую ночку не спала,—
Мне сніўся твой радасны смех...

*1927*

* * *

Раніцы добрай, пасёлак,
Белая цвецень садоў.
Хлопцы будуюць вясёла
Новы пад школу дом.

Рухаюць радасна пілы,
Споран так тупат сякер,
Скача задорнаю сілай
Молат у моцнай руцэ.

Вось дзе мае летуценні,
Вось дзе прастор малады,
Сонца злуе на антэне,
Песню ліюць правады.

Дайце, сябры дарагія,
Молат, шнуры і цвікі,
Заўтра заменяць другія
З махам юнацкай рукі.

Долаты ліжуць асёлкі,
Песні гарадь хараством.
Рэха цалуе пасёлкі,—
Новы будуецца дом!

*1927*



За вакном задыхаецца вецер,
Месяц мары ў пакой прынёс...
...Многа радасці ёсць на свеце,
Многа ёсць недарэчлівых слёз.

Былі дні —
                я за працай вясёлай
Нешта светлае ў далі свістаў.
Былі дні —
                я тугу і назолу
Пражай тонкай на сэрца матаў,

І ў пахучы званец касагораў
Я хадзіў за палі працаваць,
І маю залатую махорку
Я цягнуў, нібы спеў — без канца...

А цяпер вось... Ці ўчора, ці сёння
Сам сябе не магу я спазнаць —
Светлай радасці ў сэрцы — прадонне,
У жыцці навальніцай вясна...

Да канца развучыўся я хныкаць —
Сам я ў вочы ўбіваў асцё...
А цяпера уздымным крыкам
Я вітаю другое жыццё.

За сцяною гармонікам вецер
Нечуваную моц прынёс...
Многа радасці ёсць на свеце
І дзіцячых,
і смешных слёз.

*1927*

## РОСТАНЬ

Другі званок.
І пошчакам знаёмым
рассыпалася па перону дрож...
Чагосьці едзеш ты ў далёкі Гомель,
і смутак твой
апошні раз — прыгож...

Агні...
        Агні...
За сінімі агнямі
цягнік схаваецца
ў начны прастор...
Апошні раз
руку пажмеш на памяць...
Замоўк званок...
Адчынен семафор...

Апошняе:
— Бывай здарова!..
— Бывай!
Не забывай... Пішы...
І ледзянеюць
неяк дзіўна словы,
і цяжка так
на зморанай душы...

Хацелася
так многа расказаць —
і неяк дзіўна:
не хапіла слоў.
Загуў гудок,
і плаўна за вакзал
паплыў цягнік,
і рэйкі замяло.

Хацелася вярнуць,
хацелася крычаць.
А поезд плыў
і таяў у імгле.
Вось шаль знаёмая
звалілася з пляча
і мах рукі —
і на адказ — услед.

. . . . . . . .

Ўляціць вясна.
І новых летуценняў
там дзіўна завіецца дзераза,
і я прыйду з усмешкаю, без ценю,
ізноў сюды на радасны вакзал.

Спаткаемся.
Ў душы загіне кволасць.
Прыхілімся
і скажам проста так:

— Вітай, Сяргей!
Я стала — камсамолкай!
І я скажу,
што камсамольцам стаў.

*1927*

## З НІЗКІ ВЕРШАЎ «ДЫМНАЕ ЖЫТА»

Што такое, куды гэта гожа? —
Разышліся шляхі... Ураз...
...Цалавала Марыля Сярожу
Ў дымных жытах апошні раз.

На шляхах дагаралі бярозы,
І з зялёнага полымя — дым...
Можа, шлях той травою зарос,
Мо пажар затушылі гады.

Не была б ты такой прыгожай,
Хіба ж стаў бы ў наранні згарацьІ —
Цалаваў Марылю Сярожа
Ў дымных жытах апошні раз.

. . . . . . . . . . . .

Адыходзіў у далі поезд,
Праплываў за вагонам вагон...
...Ўсё, што меў, я сваё дарагое
Правадзіў пад руку на перон.

І была так сцюдзёна ноч,
І такая шумела зіма...
І да рання не ведаўся з сном,
Не чытаўся адчынены Маркс.

Ціха плакаў раяль за сцяною,
Мары нясліся ціха ўздагон...
...Ўсё, што меў, я сваё дарагое
Правадзіў пад руку на перон.

*1927*

## ВЯСНА

Травою сыпала ў палёх,
Ў мільёны скрыпак дзесьці грала;
Шумела шэрае галлё,
А ты смяялася й спявала.

Ўсю ноч гарэлі агані,
Ўсю ноч цвілі ружова зоры;
Ты адышла пад звон крыніц,
У невядомыя прасторы.

Ў пакоі старым на акне
Застаўся водар ад жасмінаў...
І была гэтак смутна мне
Гарэць агнямі успамінаў.

Пайшла...
Каб дзесьці у глушы
За кнігамі правесці лета,
А восенню блакіт і шыр
Пакінуць для ўніверсітэта.

*1927*



Сіняй ноччу, ў месячную замець,
Дзе гарацьь ваўчыныя агні,—
Дуб самотны замахаў рукамі,
Глянуўшы на зрэзаныя пні.

І стагнаў, і галасіў ад гора...
А пасля, як замець адцвіла,—
Нема ехаў высечаным борам,
І жалобна плакала піла.

Маладзік пагнуўся кветкай бэзу,
Паглядзеў, стуманіўся і знік...
А пад дубам плакала жалеза,
І маўчалі зрэзаныя пні...

І калі ад скрыпнуўшых саней
Конь стары прыгнуўся смутнай мордай —
Зваліўся волат-дуб у снег
Урачыста, ўзбурана і горда...

Рэху ў пнях — нядоўга пагалёкаць:
І замоўк разбуджаны прастор.
Быў пахож на могільнік далёкі
Адшумеўшы высечаны бор...

*1928*

## ХАДОК

Побач шляху шэпча часты ельнік,
На шляху музыка правадоў.
Шмат хадзіў у гарады Савелі,
І пражыў дзядуля шмат гадоў.

І цяпера за плячыма клумак,
А у шапцы скарга ад сялян.
Дзед зусім,
Зусім не хоча думаць,
Што нібы пяройдзе кулакам зямля.

Ён усё раскажа Чарвякову:
— Кулакі заселі ў сельсавет.
І шукаць папросту будзе словы
Пальцамі у лысай галаве.

. . . . . . . . . . . .

Трэці дзень ішоў у Менск Савелі,
Пыл ласкава замятаў сляды.
Побач шляху шэпча часты ельнік,
І спяваюць ціха правады.

Дзед ідзе.
І шлях у дзеда дальні —
На дзве пары ліпавых лапцей.
Ён успомніў земскага начальніка,
Што пабіў і выгнаў не ўнацей.

І калі ўбачыў дымны горад,
Да заявы пацягнулася рука.
Паабедаў ў мяккіх касагорах
І пайшоў «галоўнага» шукаць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзед такога добрага прыёму
У жыцці ніколі не чакаў:
Накармілі,
Начаваў, як дома,
І пачуў ён праўду пра кулака.

Паціскаў стары Савелі плечы,
Не чакаў,
А жыў ён шмат гадоў:
Чарвякоў пытаўся пра авечкі,
Пра жыццё сялян
І пра...
Кароў!

Заплывалі туманамі далі,
Горад знік таёмна у імгле.
Дзед сядзеў на радасным вакзале,
Усміхаючыся на білет.

. . . . . . . . . . . . . . .

Побач шляху шэпча чорны ельнік,
Ў шэры змрок вагоны паплылі.
Ува сне ўсміхаецца Савелі:
Сняцца дзеду новыя палі...

*1928*

# ЧЫРВОНЫ ОРДЭН

Мінулага паўсталі успаміны:
Ў начную ціш шапталі хутары.
Нямая ціш... Пад вокнамі асіны
Цалункі зорных губ трымалі да зары...

А за палямі пошчакам рассыпным
Трашчаў знаёма недзе кулямёт.
Другую ноч чакала маці сына,
Трывожна слухала, як вецер гукі вёў.

А раніцой — не вытрымала сэрца,
Пайшла за вёску сына адшукаць...
Хістаў аўсы маёвы ціхі вецер.
Забітых соўкала крывавая рака...

Пыталася, надзеяй апавіта,
Дзе сын? І гаварылі ёй,
Што сын адважна разбіваў бандытаў
І недзе знік прад ранічнай зарой...

Шукала і знайшла.
На твары горда
Застыла помста, злосць і боль...
І на грудзях — квітнеў Чырвоны ордэн,
Ды толькі грудзі не ўздыхалі больш...

. . . . . . . . . . . . . . .

Хаўтурны марш...
І нешта радасць засціць,
І ўспамінаецца мінулае само:
Чырвоны ордэн, слёзы маці...
І дні вялікіх перамог.

*1928*



Адцвітаў заход па-над вадою
Кутасамі жніveньскіх парэчак.
Ты прыйшла знаёмаю хадою
Да мяне правесці кары вечар.
Самавар шумеў мінулай ласкай,
Як у чэрвені начамі жыта.
Праглядзелі да залікаў Маркса,
Гаварылі ціха аб пражытым.
І калі ноч вытыкала месяц
Умітусь ландышамі й васількамі —
Мы на сход чытанае панеслі,
Захапіўшы старэнькую маму.
Завілася радасць паміж намі,
І так дзіўна лёгка стала неяк:
У першы раз мая сівая мама
Пахваліла дружную ячэйку.

. . . . . . . . . . . .

Вечар шызы туманамі дыхаў,
Дзесьці казку рассыпалі струны...
...Шалясцелі пацалункі ціха,
Ціха шалясцелі пацалункі...
У першы раз так плакала гітара,
Як ад шчасця толькі плача маці.
У вокнах вечарыўся вечар кары,
«Рэвалюцыйная» звінела ў хаце.

І калі усход гарэў малінай —
Аб каханні незнарок сказала...

. . . . . . . . . . . .

Прахадзілі шызаю далінай...
Я цябе праводзіў да вакзала.

*1928*

## АГНІ ЗАРАНІЦ

1

Майго бацькі ўпартасць і мяцежнасць
Ад маленства на мне, як граніт.
А ад маці — пяшчотнасць і ўсмешка
На губах у ружовым агні.
Мо таму я здаюся дзіўным
І ў песнях — і зоры, і змрок,
І бывае такім пераліўным
Маіх слоў маладых серабро.

2

О мая бацькаўшчына,—
Казкі ціхія ніў і аўсоў,
Перашэпты садоў і калін,
Зразумелыя сэрцу без слоў...

3

Махае мне вярба надломанай рукою:
— Люблю!..
...Ў балотах шэпча асака.
О бацькаўшчына!
Заўжды я з табою,
З табою выйшаў зоры спатыкаць!

4

З усмешкай расквітнеўшых вішань
Я твой, як быў, мяцежны і пяшчотны!
Мой родны край!
Ўздымайся вышай, вышай!
Паэтаў,
Мастакоў —
Зямля прыносіць сотні!

5

Акорды дум тваіх — ў гудках электрастанцый,
Ў гудках заводаў — песні зіхацяць!
О любы край! Ні на якім паўстанку
Не застановіцца цягнік жыцця!

6

Упэўнен я, што не задзьмуць сувеі
Шляхі, пракладзеныя тысячамі воль.
...І тысячы краін агнём запалымнеюць,
Агнём Камуны
І бязмежным полем!

7

І вось таму усмешкай маёй маці
І ўзбураным,— што ўзяў ад бацькі,— гневам

Хачу сказаць прыгнечаным сабрацца:
Мы — ўладары,
Мы новай эры веянь!
І што ніякім судам і расстрэлам
Цягнік жыцця ніколі не спыніць!..

8

О родны край! Чарэмх і вішань белых
І свет усмешак ціхіх зараніц!
. . . . . . . . . . . . . .

9

Вачамі радасці, усмешлівых фіялак
Пад першы Май,
Пад дым квітнеўшых дрэў
Мяне жыццё агнём пацалавала,
Каб у жыцці я заўжды мог гарэць!
О ясных днёў
Квітнеючая зелень,
Таемнасць чар
І пацалункаў дрож...
Агнём вясны
Па маладому целу
Пераліваецца жывое серабро.

10

На пералесіцах, пралескамі аснежаны,
Ў красавіку квітнеюць касагоры.
Мяне завуць пяшчотным і мяцежным,
А іншы час — засмучаным і гордым!
А я скажу, што ціхіх зор і Маяў
Ў мяне куды як многа ў галаве.
Бывае — й смуць навяжа дарагая,
Як і усе, я толькі — чалавек!

11

Вачамі радасці, усмешлівых фіялак
Пад першы Май, пад дым квітнеўшых дрэў
Мяне жыццё агнём пацалавала,
Каб у жыцці я заўжды мог гарэць!

*1928*



Закруцілася замець начою,
бомы сыплюць жмуткамі снег.
О краіна
мая дарагая!
Дзеразой на антэнах —
снег.

Іней срэбрам рассыпаўся ў далях,
коні шустрыя
скачуць сялом.
На курганчыку
свеціць чытальня —
новы белы
смалісты дом.

Каля прызбы спаткае сястрыца,
выйдзе мама мяне спатыкаць,
і, цалуючы, будуць журыцца:
«Што прыехаў так позна да нас?..»

Раскажу, што над нашай далінай
сыпле студзень
пралескамі май,
як цвіце па Савецкай краіне
дзеразой на антэнах зіма!..

*1928*

* * *

Пад звон сярпоў — нямала пержыта,
Нямала спеваў кінута ў прастор.
Дзяўчына зноў спявае мне пра жыта,
Пра хараство жыцця і срэбра зор.
Спявае ціха...
Ціха ноч злятае...
Ваўком за вокнамі асенні вые вечар.
Імжа...
Снег выпаў
І растаяў.
І хіліцца,
і хіліцца дадолу вецце...
...Спявай, дзяўчына!
Ну...
Хоць аб балотах,
Дзе чароты сняць аб Беларусі.
Аб соснах мне паслухаць бы ахвота,
Спявай,
Ды шчыра так!
А слухаць я — бяруся!
А мо ты мне раскажаш ціха казку,
Што маці пела мне:
«...Шуміць уноч галлё...»
Мо ведаеш? —
Дык ўспомні, калі ласка!
Таксама там аб ніўных ёсць палёх!

Як раніцай пастух,
Качаўся на расе я,
У васількоавых меж зацягваў хамут.
...Хоць і люблю цябе я, вольная Расея,
А Беларусь — ляпей!
Не ведаю чаму!

Ці мо затым:
Пяяла маці сыну:
«А ў траўні з гаем зеляненькім
Зрадніўся любы ты, з табою разам я».
Старонка...
Вольная...
Ты ведаеш, дзяўчына? —
Ўсё гэта —
Беларусь,
Блакітная,
Мая!..

*1928*



Быў стары маёнтак, а цяпер Камуна,
Жучка за палямі — коні сцеражэ,
І ўгары антэны нацягнулі струны,
І унізе трактар незнаёма ржэ.
Добры дзень, Камуна, добры дзень, загоны!
Мой паклон вам нізкі, белыя сады.
...І ў адказ ласкава, ціха шэпчуць клёны
І прысад вітаюць з шчасцем маладым.

*1928*

# РАЗВІТАННЕ

На камінку агні адпалалі,
Вечар казкі асеннія сніць...
Ну, бывай! Да вясновых прагалін,
Да спаткання ў зялёныя дні.

Прыйдзеш ты, калі песням пад холад
Не скіголіць журбою імжы,
Калі ўпершы у родныя сёлы
Прыляцяць журавы і стрыжы.

Будуць клікаць цябе аграномам,
Ўвечар ў хату збярэш і паўсяла,
Каб на пустках ад плёну салома
Да зямлі галавой прылягла.

Ну — бывай... Вось хурманка ля школы...
Па цябе... А у сэрцы — жаль...
Там, на пустцы здратованай, голай,
Разгарэўся асенні пажар.

*1928*



Гэта так было:
помніш — восенню
маладымі спаткаліся мы.
Ціха дзень імглеў.
Жаўтакосая
восень ціха чакала зімы.

У абодвух нас
грала моладасць.
Загараліся шчокі, як жар.
Аблятаў тапол,
літы золатам,
на узорны асенні загар.

Светлай радасцю
смех у нас ўзнікаў.
Буйнай ружай шчака зацвіла.
Я прыехаў на працу настаўнікам,
ты — настаўніцай разам была.

———

...Помню:
раніцай,
чыстай, белаю,
прыляцела на тройцы зіма,

перад школаю
пасівелаю
як ніколі дзяцей было шмат.

І прыйшоў народ,
ды не злічаны,—
адчыненне чытальні было.
Так спаткалі мы дзень Кастрычніка;
гуд ішоў перакатна сялом.

А увечары
з дасягненнямі
талька гучна вітала народ.
Ой, мой любы край,
зямля Леніна,
з сенажацямі шэрых балот.

Ўсхвалявала ўсіх
прывітальнае.
Не змаглі ўсе да рання заснуць.
І над новаю
над чытальняю
зазвінела антэна вясну.

*1928*



Сяргей з бацькамі. 1915 г.

# Вясновае.

І рань праменьнем сьмялася,
Песьні сьпявалі калосься,
Сонца за вескай узьнімалася
У золаце сьветлых валосьсяу.

Песьня плылась чаротамі.
Чуу я увесь гоман асін...
Слауся туман над балотамі...
У полі арау селянін.

. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . .

Хутка, старонка далекая,
Хутка к табе я зьвярнусь.
Гэй ты, палямі шырокая,
У золаце ніу Беларусь!..

Першы друкаваны верш.
Газета «Магілёўскі селянін»,
1925, 25 лютага.



Сяргей Фамін,
сядзяць *(злева направа)*
Марыя Вашчылка *(будучая жонка)*
і яе сяброўкі. 1927 г.



Сяргей *(злева)* з сябрам
на вайсковых зборах.
На адвароце надпіс: «Дарагой, любімай, адзінай
Марачцы ад яе Сяргея. 3/VII—32 г. Друць».



Раіса Уладзіміраўна Фаміна —
сястра паэта. 1958 г.




Лагерны фотаздымак. На адвароце пазначана: «Приговор приведен в исполнение 4 декабря 1941 года в 01 час. 06 минут (л. д. 416)».



Пагубляла рубіны рабіна
і ад страты ў прастор загула...
Ў танкаструнь залатой павучыны
агарнулася жніўная гладзь.
Па ярах, па сівых пералесках
так выразны бярозы і пні.
Пад нагою ламаюцца трэскі...
Восень.
Ціха.
Празрыстыя дні.
На забытай званіцы — варона.
Вечарэе.
А ў далях — туман.
Непрыкметна ў нашу старонку
едзе ціха на іртах зіма.
Пахне востра яшчэ канаплянік,
пахне полем і вільгаццю ліп.
Звечарэла.
У шызым тумане
шолах шэрых зайцоў на палі...
Ноч.
Самотна, чуць чутна асіна
прашаптала, мяжу замяла...
Пагубляла рубіны рабіна
і ад страты ў прастор загула.

*1928*

## ПРЫЯЦЕЛЬ

Ён прыйшоў нячутнаю хадою
Адпачыць і лёг на ўлонне мне.
Нахіліўся ціха галавою
І заблытаў казку ува сне.

Кот стары. І погляд яго шызы,
Бы туманы ў месячную ноч.
Сняцца коту чорныя карнізы,
Па якіх не лазіць яму зноў.

І [redacted] такою ж палкаю ахвотай,
Як ганяў калісьці галубоў,—
Аддае мне смутныя пяшчоты
І сваю каціную любоў.

І пяшчотна, і прыгожа ласка.
Любы друг! даўно ты мне знаём!
А вось хутка і памрэш ты, Васька,
І пакінеш сіратою дом.

І пад кволай, старанькай павеццю
Новы кот прыдушыць вераб'я...
Не цалуй! Я ведаю — на свеце
У цябе каханы самы — я...

Любы Васька! памятаеш лета —
Ты з палёў пісульку мне прынёс.

І «Сярожы» з сіняга канверта
Ўсхвалявала радасцю да слёз.

І з ружовай стужкай асцярожна
Ты мяне так часта тады зваў,
Цалаваў ад любай ты, як можаш,
Пацалункі любай аддаваў.

Смешна, Васька, надзвычайна смешна
Ўспамінаць мінулае ізноў,
І маю юнацкую бязмежнасць,
І тваю кацiную любоў!

Не цалуй і не глядзі так горда,
Дарагі мой стары інвалід,
Чуў я сёння, што яна з завода
Прыязджала паглядзець палі.

Ды цяпер не тое, Васька,
Баста!
І пісулькі ўсе ў мінулай далі...
Дэлегаткай называюць Насту,
Што калісь паненкай называлі.

Перадала Наста без паперы,
Што завод у іх пайшоў на лад,
І прасіла, каб у вечар шэры
Дапамог зрабіць ёй судаклад.

...Патухае погляд Ваські шызы,
І у сне ён шчэрыць бель зубоў...
...Сняцца Ваську чорныя карнізы
І мая забытая любоў.

Ну, пара, Васюк, табе на печку,
Мне туды пара — ўніверсітэт...
Прыхадзі ў наступны вольны вечар —
Раніца апавіла сусвет.

*1928*



Палі, палі...
Куды ні кінеш вокам.
Гаі, бары...
...А рэйкі рэжуць даль.
Мой родны край! Зусім ты недалёка.
Палі, лясы, балоты і вада.
Табе, мой край,
Што Беларусь завецца,
Жадаю лепшага, шчаслівага жыцця.
Я ведаю,
Што шчэ дубовым клецям
На полі бараны трывожна шалясцяць.
Што дзед сівы гаруе з сашнікамі,
І тут жа радам трактар-самаход,
І тут жа радам,
Тут — жалеза й камень,
Бетон, чыгун сплятаюцца ў завод.
Я ведаю,
Што дзесь яшчэ старое
Кіруе вёскай, дзе балотаў шыр.
Але растуць
Ў краіне «Асінстроі»,
Расце і гул на фабрыках машын.

*1928*

# ПА ПЕРШАЙ ПАРОШЫ

Як добра сягоння, прыгожа,
Як радасна бліскае снег.
Сягоння па першай парошы
І першыя скрыпы саней.
Сягоння па полі мой вылаз,
Сягоння — душою гарэць!
...Зайцы ў нашым садзе пагрызлі
Шмат маладзенькіх дрэў.
Я ў поле гатоў. За плячыма
Знаёмая стрэльба і хлеб.
Іду я. І пахне дымам
Так смачна у нас на сяле.
Я ў полі. Чарнеюць кустамі
На дальніх палях раўчакі.
І чутна мне: дзесь за гаямі
Ганяюць зайцоў ганчакі.
Тут кожны мне кусцік знаёмы
І кожны знаёмы мне пень.
Не чутна ў нагах утомы
Ў такі жыццярадасны дзень:
— Здароў! і маё шанаванне!
— Здароў! даражэнькі Андрэй!
— Сягоння жа паляванне!
Глядзі, як лісіцу угрэў!
А звёзшы ў саюз, у горад,
Дадуць там з чырвонцы два!

...Ад зайздрасці ў гэтых прасторах
Круцілася нат галава.
Гарэла рука ў нагавіцах.
Сабака віляў хвастом.
...Цяпер бы такую лісіцу
Забіць пад каравым кустом!

. . . . . . . . . . . .

Дзень цэлы хадзіў — ні вароны
Нідзе, як назло, не забіў.
Увечары позна сцюдзёна
З сувеямі вецер завыў.
Вярнуўся, з Андрэем сышліся.
І доўга смяяўся Андрэй.
Зайцы ў нашым садзе пагрызлі
Шмат маладзенькіх дрэў.

*1929*



Туманамі залачонымі
Прахадзіла восень клёнамі,
Закранула сосны сонныя
І пранеслася загонамі.

На пахучых канаплянiках
Вераб'і лятаді зграямі.
І ступала восень ранепька
Над палямі ураджайнымі.

За ракой прастор аселіцы
Хваляваўся малатарнямі.
Пад мякіннаю мяцеліцай
Працавалі дружна ўдарнікі.

Журавы плылі занізкамі
Над саўгаскімі палосамі.
І шумеў за даллю шызаю
Шлях чырвонымі абозамі.

...А калі ішлі калонамі
Творчай працай нестамлёныя —
Прывітаннем за загонамі
Ім звінела восень клёнамі.

*1929*

## У КАЛГАСЕ

Кастрычнік сад калгаскі агаліў.
Гудуць лясы ад восеньскіх пажараў.
У нас ў калгасе звонкі пераклік
Прывезеных нядаўна малатарань.

Так кожны дзень.
А вечарамі ўдаль
У клуб пад ліпы адыходзіць гоман.
І пахне свежасцю рабінавых караль
І адмалочанай аўсянаю саломай.

А раніцой, калі гарыць усход
І сад шуміць малінаваю хусткай,—
Да свіраняў з калгаса йдзе народ,
І закіпае дружная пагрузка.

Гадзіна, дзве,
　　　　　　　　і вось пагружан хлеб.
І ад калгаса ў дзедаўскіх бярозах
Ўдаль папаўзуць, туды,
　　　　　　　　　　　　　далей,
　　　　　　　　　　　　　　　　далей,
Да гарадоў чырвоныя абозы.

І кожны дзень расце, расце калгас,
І з кожным днём — шырэй яго палосы.

Нядаўна з поля дальняга да нас
Прыехала на наваселле вёска.

Нядаўна трактар з фабрык прывязлі,
Каб узараць дзядоўскія абшары.

. . . . . . . . . . . . . .

У нас ў калгасе звонкі пераклік
Прывезеных нядаўна малатарань.

*1929*

# ДАРОГУ ВЯЛІКАЙ МАШЫНЕ

### 1

Ніхто не зруйнуе, ніхто не вмяце,
Што створана воляй мільёнаў.
На месцы гнілога — жывое расце
І новыя творыць законы.

За лепшае шчасце, за новыя дні
Працуем і гнём свае спіны.
На новы падмурак — аснову-граніт
Кладзём за цаглінай цагліну.

І сцены растуць, і эпохі сыны
Машынай жыццё дасканаляць.
І сцены растуць,
і растуць карпусы —
З граніту, бетону і сталі.

Хоць цяжка змагацца, а дружна ідзем
Уперад сталёвай калонай.
Ніхто не зруйнуе,
ніхто не змяце,
Што створана воляй мільёнаў.

2

Дарогу! Дарогу вялікай машыне!
Сірэны гудуць у блакітную гладзь.
Па вольнай Савецкай вялікай краіне
Расце за палацам палац.

А пройдуць гады, і ярчэй разгарацца
Ў палацах працоўных электраагні.
О, слава табе, мазалёвая праца.
О, слава вам, дні заранiц.

Напружаны мы неабсяжным уздымам,
І самі будуем мы новы наш лёс.
У кожнай машыне,
Ў фабрычным дыме,
Пад лёскат сталёвых калёс.

Гнілыя туманы, маровыя ночы
З сусвету зляцяць і растануць, бы дым.
Мільёны працоўных, мільёны рабочых
Куюць заравыя гады.

І з кожнаю новай закручанай шрубай
Бліжэй перамога!
Закруцім яшчэ —
І ўстануць,
                узнімуцца волаты-трубы.
Асновы старога рассыплюцца ўшчэнт!

Закруцім яшчэ, нашай працы не спынім,
Ўскладаем напорна апошні вянец.
Дарогу! дарогу вялікай машыне,
Дарогу сусветнай вясне.

3

Квітнеюць саўгасы калоссем пшаніц,
Калышуцца буйныя нівы,
На моцным, сталёвым саўгаскім кані
Аруць травяныя разлівы.

На золаце дальніх высокіх антэн
Спяваюць вятры-залёты,
І песні мурлычуць вялікіх змен
Над звонкай зямлёй самалёты.

———

Ах — неба не неба,—
А сіні шоўк,
Прадонне сонца і свету.

. . . . . . . . .

Зямля, зямля!
Чалавек прыйшоў
Адбудаваць планету.

Ў руках уздымаецца молат і серп,
А ў словах шапочуць прыводы.

І рух яго кожнай краіне нясе
З бетону і сталі заводы.

Палаюць, ўзыходзяць агні зараніц.
Будуем, жывём, не загінем.
За лепшае шчасце, за новыя дні
Працуем і гнём свае спіны!

*1929*



«...Дзядзька прадаў кабылу. Межы мы распахалі, і суседнія вёскі адышлі ў калгас. Адышоў і наш пасёлак, але яшчэ да вясны будзем жыць у асобных хатах. Вясной пераедзем на наваселле ў калектыў».

*З ліста брата*

Месяц плыў і раптоўна згас.
Зніклі ў цемры блакітныя вёслы.
...Раскажы!
Мне казалі, ў калгас
Адыходзіць за вёскаю вёска.
Раскажы!
Мне казалі — ў палёх —
Трактароў за калонай калоны,
Што апошнюю песню быльнёг
Адыходзячай вёсцы звоніць.
Кажуць, сталі па-новаму жыць,
І ў далёкім калгасе нашым
Марыш ты, каб з ячменяў і жыт
Скасаваць васількі і рамашкі.
Раскажы ты мне ўсё!
Як у нас
На пасёлку зліліся палоскі.
Я ж прыеду, як будзе вясна
Асыпаць дымам плёну бярозкі.
Сам я ведаю: знікне туга...

Па старэнькай мышастай кабыле.

. . . . . . . . . . . . .

Так.
Мышастай — няма.
І яе дуга
Пад павеццю пакрылася пылам.
А на месцы мышастай — «фардзон» —
Даўгагрывай — жалезная змена.
Сам ты кажаш,
Не есць гэты конь
Ні аўса,
Ні пахучага сена.
Я ж прыеду, як будзе вясна.
Ах, не смейся!
Не смейся!
Дзівак ты!
Калі трэба — я сяду сам
За сталёвы калгаскі трактар.
Разумею я сам гэты час,
Сэрца дам я шчасліваму лёсу.
...Пад сірэны машын у калгас
Адыходзіць за вёскаю вёска.

*1929*

## МЕНСК

Учора крочыў па бруку
(Побач мурзатыя вітрынкі).
Ногі ў выбоях —
мука.
Сёння —
асфальт,
брусчатка
і клінкер.
І рэек трамвайных сталь.
І горда ўсталі,
сурова і цвёрда
Будыніны светлыя
ў сотні кватэр,
І вось гаспадар на балконе горды —
Рабочы
БССР.
У 20-м
зруйнованы маршалам горад.
Павырваны з мясам
скрываўлены брук.
А сёння імпэтны,
агнём семафораў
Няспынна глядзіць,
трансфарміруе рух.
Ды гэтай работы
не вычарпаць кнігам:

На пустках былых —
расквітнелі сады,
Ў бетонныя трубы
замкнута Няміга,
І пасмамі чэрваў
ў зямлі правады.
Поту працоўных
дарэмна не ліцца:
Дні бальшавіцкіх
зруху і змен —
І цэнтрам культуры,
рабочай сталіцай
Стаў
наш
Менск
З гамай фабрычных сірэн.
Люблю цябе я,
калі лёгка на скверах
Гушкаецца
зіма
На галінках;
і плямаю шэрай
На іртах дзяўчына — й няма.
І толькі пялёсткамі шэрань,
І смех — стрымай,
А заўтра
ў марозны сірэнавы золак
Ты йдзеш на вытворчасць,
і вось... ці яна

Цябе абагнала ў натоўпе вясёлым?
Ў руках бутэброд,
а вочы... без дна.
Ударніцы. На завод.
На тварах крамяны
ружамі холад.
Бяжыць на работу
рабочы пасёлак.
Люблю цябе, Менск,
калі раніцай гулкай
Ўздымаеш паверхі
тэатраў, дамоў.
Шумяць інстытуты,
і ў звонкіх завулках
Снуюць грузавыя «Амо».
Цябе руйнавалі ушчэнт акупанты,
Ты пусткаю быў,
быў магілай руін.
Маршалак з цябе
здзёр апошнія транты,
І гімны яму
склалі ў песнях сваіх
Нацдэмы,
маршалкавы
халуі,
Хацелася ім
раскідаць
за партфелі
Рабочых штандараў чырвоны пажар,

Каб плакала голь
беларускіх аселіц,
Каб горда стаяў
на руінах жандар.
Павыгналі ворагаў.
Адбудавалі.
Горда узнесены
шэрагі сцен.
Шостаюць ціха
аўто па асфальту.
Справай
заняты
Менск.

*1930—1932*

## НАШ КРОК

Ніхто не зруйнуе,
ніхто не змяце,
што створана воляй
мільёнаў.
На месцы гнілога
жывое расце
і новыя творыць
законы.
За лепшую долю,
за новыя дні
працуем
упарта,
няспынна.
На новы падмурак —
аснову-граніт
кладзём за цаглінай
цагліну.
Упарта шумяць
пры драбілках пасы —
машынай
жыццё дасканалім.
І гравій кладзецца
у карпусы
напорна між тросавай
сталі.
На пятым паверсе шугаюць вятры

і свішчуць
чыгунныя рамы.
Пацеюць там
бацька і сын —
муляры —
за выкананне
праграмы.
Змагаецца Клім
дзесяты дзень,
а сын малады,
непакорны,
Стары бы прывычкай
узяў дзе-нідзе,
дык сын пераможа
напорам.
— Ах, гэты Алеська!
Чортаў сын...
Ізноў перагнаў,
выходзіць!
І вецер знаёмыя
гукі «с-с-с...»
у склёпныя дзюркі
уводзіць.
І гонар за сына
цвіце у вачох
і ў сына палае
за бацьку.
А голаў у бацькі —
як восеньскі мох,

а рукі спрытны
і хвацкі.
Сын жа
балючы
нацёр мазоль,
і ные сярэдзіна
нема.
Ён хоча не здацца,
хай змора і боль:
ён разам з германцам
Лемам.
Такіх
па многа
ў брыгадах ёсць,
што ўжо
перагналі Фордаў!
І дзівіцца Лем,
замежны госць,
сусветным
нашым
рэкордам.
Па-нашаму — проста:
тут дзіва няма.
Хай кажуць:
«Працуюць з нахрапу!»
Навучымся лепей!
Нас не стрымаць!
Але мы не йдзем
«на арапа».

Мы ведаем добра
мэты свае,
навошта габлюем, стругаем...
І ў нас маладосці,
запалу
стае,
і нас ўжо ніхто
не стрымае.
Хоць цяжка часамі,
а дружна ідзём
наперад
сталёвай калонай.
Ніхто не зруйнуе, ніхто не змяце,
што створана воляй
мільёнаў.
Ударнікі!
Дружна!
Давай жа:
р-раз!!!
Чацвёрты каб лепшы
за трэці!
Каб
рэха
наступных паходаў
ад нас
плыло па вялікім
свеце.

*1932*

## КРАСАВІК

Да юроў аганьмі
адыходзіць разліў.
У млынах
пакалечаны застаўкі.
Над карункамі чорнай
набухлай зямлі
У бяздонне
нуруюць
ластаўкі.
Акварэльны лес
скінуў белы жупан,
І набраклае поле
курыцца;
А на сметніку,
нібы донжуан,
Певень ходзіць
ля кожнае
курыцы.
Перакацен смех,
як вада гаспадынь,
Каля лужын
ляціць
акрайкамі.
На аселіцы —
смех,
і неба сінь,

І вазы
з празрыстымі яйкамі.
Прыляцелі шпакі
ў старое дупло,
Задрыжэлі іх песні
нацятыя.
Пад узрушаны шум,
пад буслоВы палёт
Разграфоўваюць
поле аратыя.
І так смешна
ў палёх неабсяжных
сачыць
За бусловаю
дзікай
трывогаю.
Ад маторнага шуму —
ім не ўцячы
І ніякай не збочыць
дарогаю.
Ён, як здань,
будзе мчацца
за імі
ўздагон,
І прысніцца
ў броснi
балотавай.
...Індустрыяй краіны
стрывожаны сон

Праляціць, як спалох,
над залётамі.
Дзед на прызбе сядзіць.
А ўгары пераклік:
Журавы пралятаюць
над хатамі.
І праходзіць калгасам
удаль красавік
На палі
маладымі брыгадамі.
Дзевяноста старому,
а ён на вясну
Не глядзіць,
як калісь, абыякава.
І так хочацца дзеду
яшчэ адну,
Хоць адну вясну
ператакаваць.
Вось ракоча ўсё поле...
а гліцы шумяць...
Разараны разор
трактарыстамі.
Маладыя іх вочы
запалам гараць,
І мядзяныя грудзі
расхрыстаны.
...Уначы,
як з палёў
прыпаўзе цішыня

І ў гаях маладых
    сціхнуць шорасты —
Будзе доўга
    за кнігай сядзець старшыня,
Вывучаць
    аржаныя
        парасткі.
Ў галаве
    многа новых народзіцца
        з'яў...
Будзе жыта расці
    карнявістае...
А пад ядраны пошчак
    ў гаі салаўя
Раскідаецца неба празрыстае.

*1934*

* * *

На квадратах окон
Запушил мороз
Этот нежный локон
В диадеме роз.

Может, дивной этой
Не было и нет...
Может, сказку эту
Выдумал поэт.

Но в метелях зыбких
Ее вижу я.
И грустит на скрипке
Девушка моя.

А в терновце черном,
Вся избита в кровь,
На столбе позорном
Корчится любовь.

Негодует скрипка
Девушки моей.
Замерла улыбка
Жуткая у ней.

Злые ль это чары
Или признак сна?

Поднимаю чару
Черного вина.

И сверкают грани
В бурю, в пустоту,—
За ее сиянье,
За мою мечту.

*1938*

* * *

В лес собралась Инночка
И взяла корзину.
И пошла с Алиной,
Где растет малина.
Заблудилась девочка
И зовет Алину:
— Вы скажите, птицы,
Где моя сестрица?
Говорит кукушка:
— Я найду Алину!
И приводит Алю
С полною корзиной.
Детки за руки взялись,
Вышли к дому сами.
Много ягод принесли
Братику и маме.

*1939*



Ушедших лет не проклинать,
Благословенна четверть века:
Она смогла тебя создать,
Души высокой человека.

Мой друг, не думай, что венки
Тебе свиваю, ставши в позу,
Но так прекрасны и редки
Средь сорняков бывают розы.

Они мечты волнуют в нас,
Их ловим нежное дыханье:
Оно бодрит в тяжелый час,
Живое их благоуханье.

И если в песне мы поем:
«Достойна юность обелиска»,—
Я имя скромное твое
На нем бы вырубил без риска.

Неси ж вперед, как Прометей,
Средь мрачных туч судьбы печальной
Волшебный свет грядущих дней
На гранях юности кристальной.

*1939*



Прощай! Подходит час разлуки
Не в шуме траурных одежд...
И мы пожмем друг другу руки
С улыбкой грусти и надежд.

Прощай! Послушный сладким грезам,
Прошу тебя: в простор полей —
Ты передай поклон березам
Любимой вотчины моей.

Ты поклонись земным поклоном
Родимой дальней стороне,
Где рой цветов на дивных склонах
Слагает песню обо мне.

Пройди леса, мой друг, и даже
В крови душистых земляник
Моя душа тебе подскажет,
Что я люблю, к чему привык.

Ты с чистым сердцем можешь слушать
И понимать язык вершин:
Татуированные души
Твоей не тронули души.

Храни ж ее! Любви народной
Великий дар тебе сужден;

И пусть твой облик благородный
Тем даром будет озарен.

Как материнских звуков пенье,
Любовью в сердце пронеси
Твои высокие стремленья
Прекрасной Родины-Руси.

И шум лесов, и шелест ивы,
И свист родного соловья...
Да будет светлой и счастливой
Дорога дальняя твоя.

*1940*

# БАЛОТА

1

Раніцою
Пухавым туманам
Серабрыцца
На балоце торф...
Эх!
Пайду,
Пайду, ў туманы гляну;
Ой, пайду,
Пайду за касагоры.

2

Як у нас,
У нас ды на болоце —
Зашумела,
Нахілілася пшаніца...
Як у нас —
Багата проса родзіць:
Сееш пуд,
А назбіраеш
трыццаць!

3

Што каму,—
А нам і гэта люба,
Што каму,—
А нам — шумі авёс!
...Зачакаўся
Сінявокі лубін.
Зачакаўся
На каралях рос.

4

Эх, валяй,
Звіні, гармонік звонкі,
Эй, звіні,
Ружовая пастаць! —
На балоце —
Пах пшаніцы тонкі,
На балоце —
Грае Маем сталь!

5

...А было:
Дзе шолах сенажацей,
Дзе хвалюе
Возера пшаніц —
Ні праехаць,

Ні прайсці па гаці —
Па начах
па цёмных
Агані...

6

Голад быў —
Няхай ён не прысніцца,
Слёз з вачэй
Пралілася рака.
...Толькі з гонарам
Смяялася званіца
На жыццё —
Пакуты бедака.

7

А цяпер —
Смяецца па-другому:
Угары
Начамі свеціць
Ленін,
Вечарамі —
Развясёлы гоман,
Вечарамі —
Перазвон антэны.

8

Эх, балота,
Любае балота,
Эх вы, кудры,
Золата пшаніц! —
Я люблю вас
Палка і пяшчотна
Ў серабры
Вясёлкавых крыніц!

9

Так было:
З Масквы прыйшоў Мікола.
Быў —
        пастух.
Аб новым
І не сніў.
Адчыніў
У вёсцы шэрай школу;
Звалі гэтага Міколу —
Камуніст.

10

Шанавалі
Беднякі-сяляне,
Пазіралі скоса
Кулакі,

Але ўсё ж —
Ой, люба было глянуць:
На грудзях
Квітнеў у хлопца «КІМ».

11

А пасля —
На радыё збіралі.
Месяц. Два —
Ў чытальню йшоў народ

. . . . . . . . . .

У царкву
Бур'янам шлях зарос.

12

А пасля —
Пасля зусім вядома;
Бо даўно
Званіца без крыжа...
...Грай,
звіні
Заўзятую, гармонік,—
На палях
Жняяркай сталі жаць!

13

А калі
Звінелі завірухі,
Калі снег
Мукою церушыў —
Камуніста
Прыхадзілі слухаць,
Як вясной
Балота асушыць.

14

Дні ляцелі
Мітульгой мяцеліц,
Дні ляцелі.
...Надышла вясна.
Йшоў народ
К балоту
На аселіцу,
А праз год —
Балота не спазнаць.

15

Раўчакі
Віліся лукавінай,
Лукавінай
Ганнінай касы.

...Эх, мае
Мурзатыя даліны,
Аксамітная
Густая сінь!

16

Ці не помніш,
Маладая Ганна,
Ці не помніш,
Любая мая,—
У сівым
Заблытаным тумане
На балоце
Цябе бачыў я.

17

Краскі ты
Збірала па чаротах,
Завівала
У вянок траву.
Пела ты —
Ліліся слёзы шротам,
І нясла
Вяночкі
У царкву.

18

Была тройца.
Бомкала званіца.
Ты — ішла,
Ў грудзях — няволі боль...
Ой, няхай
Ніколі не прысніцца,
Што прайшло
І што не прыйдзе больш!

19

А ці помніш
Новае спатканне,
Калі мы
Вязлі з балота торф?..
...Была ранне.
Пунсавела ранне.
Песню плёў
За рэчкаю матор.

20

Ў ручаях
Узоры ткала сонца,
Не дрыжаў
У лесе ані ліст.
Ў грамадзе,

Сярод вясковых хлопцаў
Йшоў у клуб
Мікола-камуніст.

21

Павіталіся.
Мікола — пасмяяўся,
Пасмяяўся,
Глянуўшы на нас.
Тваіх шчок
Шыпшына разлілася,
Запалала
Маіх дзён вясна.
. . . . . . . .

22

А пад вечар
Сыпала жалейка,
За ракой
Мак сыпаў салавей.
І віліся
Думкі дзіўна неяк
У маёй
Кудлатай галаве.

23

...Я чакаў...
Прыйшла і павіталася.
Я казаў
Пра Леніна і клуб.

. . . . . . .

Эх, балота,
Ніўная ты далеч,
Я за шум пшаніц
Цябе —
Люблю!

24

. . . . . . . . . .

Люба, як
На свежым буйным сене!
Добра, як
Ліецца водар красак.
Люба як
На ім чытаць пра Леніна
Альбо
Напаткаць сівога Маркса.

25

Восень зноў...
І я ў пахучым сене,

Што з балота
Летам накасіў.
Ў галаве
Плятуцца летуценні,
У вачах —
Вачэй знаёмых сінь.

26

Ганна сёння
Стала
Дэлегаткай,
Ў школе добра
Скончыла
Лікпункт,
І старанна
Ходзіць на заняткі,
І бязбожніца —
На злосць папу.

27

А балота
З васільковым жытам
Тчэ,
    шапоча
Казкі
Каласоў.
...Шмат — было

Расказана
пра жыта,
Шмат было
І не вярнецца зноў.

28

Калі дні
Ружовы над балотам,—
Значыць, моц,
А ў моцы і жыццё!
...Дні гарэць
Савецкай пазалотай;
Старых дзён —
Заворана смяццё!

29

Дуй, гармонік!
Жар па-камсамольскі!
Перакатам-шротам
Зазвіні!
Што ні песня —
радасць,
Што ні гук —
раздолле.
Сёння ў песнях —
Сонечныя дні!

. . . . . . . . .

Вось вам пра балота
Песня праўды голай.
Не загінем ў песнях
I не ў барацьбе.
Ў Беларусі —
Тысячы Міколаў,
Прозвішча іх
проста
КПБ.

*1926*

## ЗА НОВЫЯ ДНІ

*Урывак з паэмы*

11

Тлумна ўдаль зацокалі вагоны.
Горад мой! Да завірух — бывай!
За дваццатым дальнім перагонам
Зашуміць мне ветліва трава.

Адплываюць трубы за паляны,
Нікне горад ў шоўкавай імгле.
Ах, хутчэй!
і першую стаянку
Засцілае кучаравы лес.

Даль мая!
Напевы першай гліцы,
Залатога вечара загар.
Звон сірэн.
Крышталь жывых крыніцаў.
І густы бярозавы пажар!

Спазнаю ізноў вас, дарагія,
Хоць і там,
Дзе былі хутары,
Пабудованы зусім другія
Ля гаёў калгасныя двары.

Бачу сам, і гэта ўжо не казка,
Як пад дым квітнеючых бяроз
Выязджаюць трактары з саўгасаў
У занізкі золакавых рос.

Мы расцём ўсё вышай з кожным годам,
Лісяй, песня звонкая, ў радкі.
Ці ж даўно з пахмураных заводаў
Зміралі дальнія гудкі?

Ці ж даўно палаў наш край пажарам,
Йшлі паўстанцы з гострай сталлю кос
І у далях, задуменна-карых,
Замярзаў апошні паравоз?

Заарали ворагаў акопы.
І на новых, маладых палёх
Рассыпае трактар ціхі лёскат,
І калгас на касагоры лёг.

Ах, мая ты дзіўная краіна,
Казка ты жывога хараства,
Смачна пахне цёплы вецер тмінам,
Нат хмялее з пахаў галава.

Вось імчымся мы да Асінстрою,
Праляцеў адзін, другі калгас.
І усё прыгожае такое
На савецкай бацькаўшчыне ў нас.

І таму, што васількамі жылы
На руках ад працы расцвілі —
Пэўна хопіць, хопіць моцы-сілы
Збудаваць рай новы на зямлі.

Беларусь, мая ты казка люба,
Беларусь, ці снілася табе —
Што ў блакітных далях ўстануць трубы,
Каб адпець адходную журбе.

Звоняць, цокаюць і цокаюць вагоны,
Пралятаюць станцыі ля нас.
За дваццатым блізкім перагонам
Мая бацькаўшчына, мой калгас.

12

Вось скончан шлях
(А поезд адыходзіць).
Табе паклон, дваццаты перагон!
Зялёны гай юнацтва спеў заводзіць,
Знаёмы дзед выходзіць на перон.
— Здароў, сынок!
Даўно цябе чакалі!

— Здароў, дзядуня!
Як жа ты жывеш?
Ад радасці і словы наплывалі
І блыталіся дзіўна ў галаве.

— А вось жыву!
За гэтымі гаямі
Мы без цябе сабраліся ў калгас.
І вось цяпер шырокімі палямі
Два трактары загрукацелі ў нас.
. . . . . . . . . . . . . . .
Мы кожны цвік ўбівалі да адказу.
Раслі дамы,
Мацнеў наш калектыў.
І як адзін мы працавалі разам,
Каб расцярэбіць ніцыя кусты.

Цяпер штогод у нас буйнее колас.
Мы старыну пакінулі даўно.
У нас свая адчыненая школа
І ёсць лікпункт, чытальня і кіно.

Лікпункт я скончыў,
Вось навіны, братка,
Магу чытаць.
Нішто сабе — пісаць.
На з'езд Саветаў еду дэлегатам
Аб дасягненнях нашых расказаць!

Гаворыць дзед, а клумак на калёсах
(Не ўгледзеў, як мы да калёс дайшлі).
І вось паехалі на сонечныя плёсы,
Дзе першыя рамашкі расцвілі.

*1929*

## Уладзімір Сасюра

### ІЗНОЎ

І дні ізноў блакітны й буры,
І шчасце ў гэтых днях, і жаль.
Не звернем песні мы на буры,
Рыданні ў сонечную даль.

Няўжо не згіне лёс закляты,
Што б ні сказалі ўжо пра нас,
Што мы наіўны — як цяляты,
У гэты важкі грозны час.

Няўжо няможна, мой народзе,
Усім сказаць, што ты... ёсць ты,
Што нам пужліва ў край пагоды
Ісці праз пусткі і праз стынь.

Што жудасна!.. Дык трэба гэта,
Другіх шляхоў у нас — няма,—
Другіх дарог няма да свету,
Бо ззаду каты, цар, турма...

Не трэ брывей ад болю жмурыць
І спатыкацца у журбе,
Бо ззаду там — такая хмурасць,
Што і не снілася табе!..

Што і не снілася ніколі!..
Хай галава, нібы кавун,
А ты здымі штыкамі голаў
І йдзі за намі да Камун.

Скрозь кроў, скрозь слёзы і пажары,
Ў зямны і сонечны Эдэм,
Натхнёныя мы, камунары,
Цябе, народзе мой, вядзем...

І толькі мы, мы, камунары —
Твае бацькі, твае сыны
Скрозь кроў, скрозь слёзы і пажары
Цябе вядзём ў другія дні...

Цябе у збройнае мы кола
Ўзялі: сусветны будзе бой!..
Трымай жа вышай горды голаў,
О дарагі народзе мой!

*1928*

## З ПАЭМЫ «СЯГОННЯ»

Так, не маем Леніна, не маем,
Не пачуем мы яго цяпер.
Але хай і брат, і вораг знае,
Што завод стаў сябрам РКП.
Хутка верасень. Ідзём дадому.
Усе запэцканы... ідзём сям'ёй.
Разляглiся вуліцы знаёма,
Рэчка Біла і масты над ёй,
Лісце клён даўно ужо не роніць,
Бо яно на полі ўсё ляжыць.
Па царквах нам на спатканні звоняць,
Ды ад іх павеяла чужым.
Павячэраў. Мой таварыш Чалы
У акно: — На сход хутчэй хадзем!
А калісь у «сома» з ім гулялі,
Стукаліся галовамі ў вадзе.
Выйшаў я пад вецер пераліўны
Ў зорнасць зрэбную, як некалі даўно.
Кажа Чалы да мяне наіўна:
— А ў мяне ўжо ленінец-сынок!
Ён ужо й на бога, й на кароны
(А над намі месяц, як клінок),
І да школы з гальштукам чырвоным
З сябрамі ён бегае даўно.
Мы ідзём. А пад гарою макі.

Вось завод. Смалісты дым і газ.
Тут калісьці варта й гайдамакі
Злосна разганялі нас.
Ўсё прайшло. Дзянікін і Пятлюра —
Для ўсяго свой час, свая пара.
А цяпер на плошчы Фізкультуры
У футбол гуляе дзетвара.
Мы ідзём. А рэйкі ў неба — звонам.
І ад клуба стужкамі агні.
Цёмны дым над трубамі з разгону
Расплываецца і тоне ў вышыні.
Хутка верасень. Сяброчкі, гляньце,
Ну каго ж, каго ж тут не п'яніць?
Вунь ляжаць квяцістыя гірлянды,
Іх сплялі з пахучае сасны.
Ліхтары, нібы з янтару слёзы,
Разліваюць золата у цень.
І крычаць у вокнах паравозы,
Што Камуна блізка, ўжо ідзе.
А вакол — плакаты і калоны.
Вечар, вечар. Вольны мой такі!
Ўсё жыццё на секцыі й раёны
Падзялілі мы, працаўнікі.
Ведаю: ні злыдняў, ні адчаю
Ужо не будзе ў той далёкі час.
І душа у кожнага заззяе —
Як дзіцяці вочы заблішчаць.
— Ты чаго? — Я ўзяў яго на рукі,
Як да сэрца кветку прыкалоў.

І яно даклады пільна слухала:
— Я на сход вось з мамаю прыйшоў.
Я смяюся і галоўку гладжу,
А дзіцё і рукі расплялО.
З рук маіх спусцілася паважна
І за юбку матчыну ўзялося.
Ліхтары, нібы янтару слёзы,
Разліваюць золата у цень.
І крычаць у вокнах паравозы,
Што Камуна блізка, ўжо ідзе.

*1928*



Гаманіць ў час апошні — не стану,
Ані словам цябе не крану.
І на муку тваю і рыданні
На расстанні рукою махну.

Да мяне ты працягнеш сына,
Будзеш бегчы за мною, крычаць...
Потым доўга стаяць каля тыну,
Але я не вярнуся назад.

Мы спаткаемся, позна ці рана.
Можа, й сэрца трывогу заб'е.
Але ясна й спакойна я гляну
На сівыя валоссі твае.

Будзе поруч ісці за табою
Сінявокі смуглявы юнак,
На мяне толькі глянеш з журбою,
Ды мяне не спазнаеш ніяк.

Сядзеш ты, а юнак той з табою
(Будзе мука, бы камень, мая).
Ён як мора, як вецер вясною,
Як калісьці ў юнацтве і я.

Падыду я да любага сына,
Ты жахнешся, абернешся ты...

І ў дзіцяці цікавасць застыне,
На калене рука затрымціць.

«Мама! хто гэта?» — скажа ён смела.
Твае ж бровы застыгнуць ў журбе.
Ты — не ведаю — скажаш збялелай,
І скажу я — прабачце — табе.

## СЯГОННЯ

Мой завод! Я зноў такі жалезны,
Звіню і адгукаюсь малатком.
Я з мас прыйшоў, з палёў гарэзых,
Дзе ад злыдняў вочы як агонь.
Ўчора дзень франтамі акіяніў,
Усіх чужых пад кулю і агонь...
А цяпер — далёка ён за намі,
І замяніў вінтоўку я станком.
Хай плывуць квяцістыя хвіліны
І жыцця пульсуе хай матор.
Мы па нэпу на камуны рынем,
І не спыніць нас ужо ніхто!
За ракою вецер несціханы
Нагінае дрэвы далавах,
А у клубе камсамолка Ганна —
Зорных слоў паўнютка галава.
Пралятае вецер гастразоры,
Над палямі казку тчэ сваю,
У ячэйку я хаджу на зборы,
Ўсім цікаўлюся і ўсё люблю.
Ў вокны дым, і паравозы з гулам,
Далятае звонамі сяло.
І ў дыму мяне маё мінулае
Абгарнула траурным крылом...
Адступала гвардыя Чырвоная,
Смутна, смутна йшлі бранеўікі...

Папаскошаны на сініх гонях
Золата пшаніц і васількі.
На магілу кветак на расстанне
Я нарву, штоб сэрца расцвіло.
Ўсё было перад вясной паўстання,
На заводзе содавым было.
Колькі днёў пагасла, прамінула...
Не магу я і дасюль забыць,
Як я мог пайсці на гэты гул
Да чужых, пад колам барацьбы.
Вось чаму ні ласка, ні утома
Не даюць запамятвацца мне,
Хоць прыйшоў чырвоным я дадому
І ад шчасця іскрыўся, як снег.
А гарадь, як юнаковы, вочы,
На сцягах радкі... агнём гараць.
Я дзіўлюся з Леніна. І хочацца
Зноў пачаць і жыць, і працаваць!
Залівай жа сэрца маё, сонца,
Штоб іскрыўся калектыў-агонь.
Я хачу ізноў быць камсамольцам,
Хоць. і мне ўжо дваццаць сёмы год.

*1928*

## КРАСАВІК

*Пераклад з украінскай*

Ў белым паркане пралесак,
Ў шызі дымкавай травы —
Дымам дрэў праходзіць лесам
Ручаісты красавік.
Вечары — таёмней казкі,
Вечары — чароўнасць зор.
У абдымках дзіўнай ласкі
Зацалован касагор.
Месяц з хмары сарамліва
Кажа белае плячо.
...Губы моўчкі гаварлівы,
Ружавей усполах шчок.
З вышыні цудоўна цені
Ноч спусціла на палі.
Прыйдзе любая студэнтка
Падрыхтоўваць залік.
Срэбрам месячным заліты,
Закахаўся вечар ў сад.
. . . . . . . . . .
На стале даўно забыты
Недачытаны даклад.

*1928*

# КАМЕНТАРЫІ І ЗАЎВАГІ

## ВЕРШЫ

*«Перазвонамі стазвоннымі...»* (с. 10)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1927, 10 лістапада, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Восень 1925 г.

*Ноч* (с. 11)

Друкуецца паводле час. «Маладняк Барысаўшчыны», 1926, № 1, с. 22, дзе ўпершыню апублікаваны.

Друкаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь», 1927, 25 снежня.

*«Я бачыў вас даўно...»* (с. 12)

Друкуецца паводле час. «Маладняк Барысаўшчыны», 1926, № 1, с. 22.

*«Калыхнулася месяца сінь...»* (с. 13)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 7—8, с. 76, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 26.11.26 г.

*«Зноў я пабачу сялянскія хаты...»* (с. 14)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1926, 28 лютага, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Зашумела шоўкам шолах-гліца...»* (с. 16)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 5, с. 43, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: В. Ратуцічы, 1926, 3/IV.

*«Разлілася рэчка, заззанілі хвалі...»* (с. 17)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1926, 3 снежня, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Вясна 1926 г. Ратуцічы.

*«Пакаціліся ў гай адгалоскі...»* (с. 18)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1926, 30 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Растапталіся цяжкія боты...»* (с. 19)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 5, с. 56, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Растлумач, дарагая, загадку...»* (с. 22)

Друкуецца паводле час. «Чырвоны сейбіт», 1926, № 5, с. 9, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Вясна адыходзіла садам...»* (с. 23)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1926, 26 чэрвеня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Восень зноў...»* (с. 25)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1926, 5 верасня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Далёкай вясной* (с. 26)

Друкуецца паводле час. «Малады араты», 1926,

№ 12, с. 7, дзе ўпершыню апублікаваны з прысвячэннем Ніне Станафіевіч.

*Станафіевіч Ніна Дзмітрыеўна* (г. н. 1909) — у той час настаўніца ў Крупках, пазней стала жонкай беларускага пісьменніка Алеся Стаховіча (1907—1956).

*«Ой, звіні ў палях, жалейка...»* (с. 28)

Друкуецца паводле час. «Малады араты», 1926, № 12, с. 7, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Сёння ночка ласкава, як мама...»* (с. 30)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1927, 15 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Да цябе я сягоння прыйду...»* (с. 31)

Друкуецца паводле час. «Чырвоны сейбіт», 1927, № 6—7, с. 16, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Ціха дзед на печы моліцца...»* (с. 32)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 11 верасня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Ліст да хлапцоў* (с. 33)

Друкуецца паводле час. «Чырвоны сейбіт», 1927, № 18—19, с. 8, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Кастрычнік 1927 г. Менск.

*Кастрычнік* (с. 35)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 30 кастрычніка, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Ў душы маёвыя агні і навальніцы...»* (с. 36)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 13 лістапада, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«...Унерадзе — радасці мора...»* (с. 37)

Друкуецца ўпершыню.

*«Раніцы добрай пасёлак...»* (с. 38)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1927, 1 снежня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«За вакном задыхаецца вецер...»* (с. 39)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 4 снежня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Ростань* (с. 41)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 2, с. 5, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1927 г.

*З нізкі вершаў «Дымнае жыта»* (с. 44)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 19, с. 2, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1927 г.

*Вясна* (с. 46)

Друкуецца паводле час. «Шлях студэнцтва», 1927—1928, № 6—7, с. 9, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Сіняй ноччу, ў месячную замець...»* (с. 47)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 3, с. 64, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Студзень 1928 г. Пепелеўка.

*Хадок* (с. 48)

Друкуецца паводле час. «Працаўнік асветы», 1928, № 1, с. 6, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Менск, 1928 г.

*Чырвоны ордэн* (с. 51)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1928, 23 лютага, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Адцвітаў заход па-над вадою...» (с. 52)*

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 3, с. 63, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: В. Пепелеўка, 1928 г.

*Агні заraніц* (с. 54)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 4, с. 9—11, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1928 г. Менск.

*«Закруцілася замець начою...»* (с. 58)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1928, 17 чэрвеня, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Пад звон сярпоў — нямала пeражыта...»* (с. 59)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 6, с. 69—70, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Быў стары маёнтак, а цяпер Камуна...»* (с. 61)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 8, с. 8, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Развітанне* (с. 62)

Друкуецца паводле час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 11, с. 14, дзе ўпершыню апублікаваны.

Друкаваўся — Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн., 1961. Т. 2. С. 445; Універсітэт паэтычны. Мн., 1971. С. 72—73.

*«Гэта так было...»* (с. 63)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 16, с. 7, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1928 г. Менск.

*«Пагубляла рубіны рабіна...»* (с. 65)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 17, с. 5, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Ірты (дыял.)* — лыжы.

*Прыяцель* (с. 66)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1928, 25 лістапада, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Палі, палі...»* (с. 69)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1928, 25 лістапада, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Па першай парошы* (с. 70)

Друкуецца паводле час. «Паляўнічы Беларусі», 1929, № 1, с. 9, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Туманамі залачонымі...»* (с. 72)

Друкуецца паводле час. «Полымя», № 5—6, с. 187, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1929 г., восень.

*У калгасе* (с. 73)

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1929, № 10, с. 73, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Дарогу вялікай машыне* (с. 75)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1929, 18 лістапада і час. «Прафесіянальны рух Беларусі», 1929, № 8, с. 22, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«Месяц плыў і раптоўна згас...»* (с. 79)

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1929, № 11—12, с. 121—122, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1929 г. 4/XII, Менск.

*Менск* (с. 81)

Друкуецца паводле час. «Беларусь калгасная», 1932, № 8, с. 80—82, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 1930—1932 гг.

*Наш крок* (с. 85)

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1932, № 1, с. 76—78, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Красавік* (с. 89)

Друкуецца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, 28 сакавіка, дзе ўпершыню апублікаваны.

*«На квадратах окон...»* (с. 93)

Друкуецца ўпершыню.

*«В лес собралась Инночка...»* (с. 95)

Друкуецца ўпершыню.

*«Ушедших лет не проклинать...»* (с. 96)

Друкуецца ўпершыню.

*«Прощай! Подходит час разлуки...»* (с. 97)

Друкуецца ўпершыню.

## ПАЭМЫ

*Балота* (с. 100)

Друкуецца па кн.: Фамін С. Балота. Мн., 1927, дзе

ўпершыню апублікавана з паметай: 1926 г., в. Ратуцічы.

*За новыя дні* (с. 113)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1929, 13 кастрычніка і час. «Прафесіянальны рух Беларусі», 1929, № 19—20, с. 36—37.

## ПЕРАКЛАДЫ

*Ізноў* (с. 118)

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 1928, 8 красавіка, дзе ўпершыню апублікаваны. Над загалоўкам прозвішча аўтара: В. Сасюра. Пад вершам пазначана: з украінскае мовы пераклаў С. Фамін. Палтава, 13-IV-27.

*З паэмы «Сягоння»* (с. 120)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 8, с. 4, дзе ўпершыню апублікаваны. Над загалоўкам прозвішча аўтара: Уладзімір Сасюра. У тэксце фотаздымак з тым жа подпісам. Пад вершам пазначана: Пераклаў з украінскага С. Фамін.

*«Гаманіць ў час апошні — не стану...»* (с. 123)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 9, с. 5, дзе ўпершыню апублікаваны. Над загалоўкам прозвішча аўтара: Уладзімір Сасюра. Пад вершам пазначана: З украінскага пераклаў С. Фамін.

*Сягоння* (с. 125)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», № 11, с. 6, дзе ўпершыню апублікаваны. Над загалоўкам прозвішча аўтара: У. Сасюра. Пад загалоўкам жанравае вызначэнне: (Паэма). Пад творам пазначана: Пераклаў з украінскага С. Фамін. У змесце нумара: Сягоння. З паэмы У. Сасюры.

*Красавік* (с. 127)

Друкуецца па «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 4, с. 14, дзе ўпершыню апублікаваны. Над загалоўкам пазначана: Сяргей Фамін. Пад загалоўкам: (Пераклад з украінскага). У змесце нумара: Красавік. Верш.— Сяргей Фамін.

# ЗМЕСТ



## ВЕРШЫ

## ПАЭМЫ



## ПЕРАКЛАДЫ

Литературно-художественное издание

Фомин
Сергей Владимирович

ДЫМНОЕ ЖИТО

*Стихи, поэмы,
переводы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*

Літаратурна-мастацкае выданне

Фамін
Сяргей Уладзіміравіч

ДЫМНАЕ ЖЫТА

*Вершы, паэмы,
пераклады*

*Рэдактар В. М. Хлебавец*
*Мастак У. С. Шнарэвіч*
*Мастацкі рэдактар В. А. Губараў*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Л. М. Маслоўская*

**ІВ № 3569**

Здадзена ў набор 31.05.90. Падп. да друку 30.01.91. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,50+0,31 укл. Ум. фарб.-адб. 5,03. Ул.-выд. арк. 4,38. Тыраж 850 экз. Зак. 438. Цана 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Фамін С.**

Ф 20 Дымнае жыта: Вершы, паэмы, пераклады/Уклад., прадм. і камент. Г. Ф. Юрчанкі.— Мн.: Маст. літ., 1991. — 139 с., [5] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00776-6.

Фомин С. Дымное жито: Стихи, поэмы, переводы.

У літаратуру Сяргей Фамін (1906—1941) уступаў як тыповы маладняковец. Ен славіў Кастрычнік, новае жыццё беларускай вёскі, але шчасліва пазбег як тагачаснай «бурапены», так і модных мінорных настрояў. У канцы 20-х гадоў падрыхтаваў і здаў у выдавецтва кнігу «Дымнае жыта», але яна не пабачыла свету — паэт стаў ахвярай сталінізму.

Ф $\frac{4702120202-058}{М\ 302(03)-91}$ 137—91 **ББК 84Бел7**

«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
«Ў 1992 ГОДЗЕ
ПРАПАНУЕ ЎВАЗЕ ЧЫТАЧА
НАСТУПНЫЯ КНІГІ
З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ:



ВАРЛЕН БЕЧЫК

**Радкі і жыццё**
*Проза*

ЯНКА ЖУРБА

**Творы**
*Лірыка, проза*

«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
Ў 1991 ГОДЗЕ
ПРАПАНУЕ ЎВАЗЕ ЧЫТАЧА
НАСТУПНЫЯ КНІГІ
З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ:

*

АЛЯКСЕЙ КОРШАК
**Апаленыя пялёсткі**
*Вершы, лісты, успаміны пра паэта*

ЗМІТРОК АСТАПЕНКА
**Пад шум дажджу**
*Вершы, паэма*